*Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!*

# БЯРОЗКА

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

№ 4

КРАСАВІК 1946 г.

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ



*Есць чалавек*
*За сцянамі Крэмля.*
*Знае і любіць*
*Яго ўся зямля.*

*Радасць і шчасце*
*Тваё ад яго,*
*Сталін —*
*Вялікае імя яго.*

# Песня піянераў Савецкага Саюза

Словы Сяргея МІХАЛКОВА. | Музыка С. ЧАРНЕЦКАГА.

Бацькі за свабоду жыццё аддавалі,
На бітвы хадзілі не раз. (Не раз!).
Стваралі ў змаганні і ЛЕНІН і СТАЛІН
Радзіму Советаў для нас.

Прыпеў:

У бацькоў-комуністаў вучыся заўсёды
І прыклад бяры з іх цяпер,
Вучыся, працуй і жыві для народа,
Совецкай зямлі піонер!

Каб мы комсамольскаю зменаю сталі,
Каб славілі нас у жыцці (ў жыцці!),
У працы, у навуцы, як ЛЕНІН і СТАЛІН,
Мы будзем наперад ісці!

Прыпеў:

У бацькоў-комуністаў вучыся заўсёды
І прыклад бяры з іх цяпер,
Вучыся, працуй і жыві для народа,
Совецкай зямлі піонер!

Мы слова сваё піонерскае далі
Радзіме аддзанымі быць (так, быць!)
І нашу Радзіму, як ЛЕНІН і СТАЛІН,
Заўсёды аддана любіць!

Прыпеў:

У бацькоў-комуністаў вучыся заўсёды
І прыклад бяры з іх цяпер,
Вучыся, працуй і жыві для народа,
Совецкай зямлі піонер!

Пераклад Пятруся БРОЎКІ.

# ХТО ЁН?

*Эдзі АГНЯЦВЕТ*

Ён красу вясёлак
На руках прыносіць,
Ён крычыць вясёла:
— Я прышоў у госці!

У ягоных скрынях —
Аксаміт зялёны,
Мора шоўкаў сініх,
Хор сініц стазвонны.

Мяккім аксамітам
Ён лугі надорыць,
Шоўкавым блакітам
Ён залье азёры.

Яблыню старую
Ён засыпле срэбрам,
Вочы зачаруе
Навальнічным небам.

Ён маланкай вострай
Прамільгне над гаем.
А ў народзе проста
Ён завецца —
Маем.



*Мал. Ф. Круглянскага*

# Валодзя Ульянаў

*(З успамінаў сястры В. І. Леніна)*

Наш правадыр Владзімір Ільіч Ульянаў (Ленін) нарадзіўся 10 (22) красавіка 1870 года на Волзе, у горадзе Сімбірску, які перайменаваны зараз ва Ульянаўск.

Бацька Владзіміра Ільіча, Ілья Нікалаевіч, быў тады інспектарам народных вучылішч Сімбірскай губерні. Ён паходзіў з простага звання, рана страціў бацьку і толькі пры дапамозе старэйшага брата з цяжкасцю атрымаў адукацыю. Пасля сканчэння універсітэта ён быў спачатку настаўнікам у Пензе і Ніжнім. Вучні вельмі любілі яго, таму што ён ніколі не караў іх, не скардзіўся на іх дырэктару, цярпліва і вельмі зразумела тлумачыў ім урокі і займаўся бясплатна па нядзелях з тымі, хто не паспяваў, каму дома ніхто растлумачыць не мог. І цяпер яшчэ некаторыя былыя вучні яго, зусім старэнькія людзі, з любоўю і ўдзячнасцю ўспамінаюць яго. У Сімбірску ён стараўся наладзіць як найбольш школ для бедната, для сялянскіх дзяцей і, не шкадуючы сілы і працы, зусім не шануючы свайго здароўя, ва ўсялякае надвор'е ездзіў дзеля гэтага па губерні.

Маці Владзіміра Ільіча, Марыя Александраўна, была дачкой урача; большую частку свайго юнацтва яна правяла ў вёсцы, дзе сяляне вельмі любілі яе. Яна была добрай музыкантшай, добра ведала музыку і мовы—французскую, нямецкую і англійскую — і вучыла таму і другому дзяцей. Яна не любіла вялікай кампаніі і забаў, праводзіла амаль увесь час дома з дзецьмі, якія вельмі любілі і паважалі яе. Даволі ёй было сказаць ім што-небудзь спакойным, ласкавым голасам, каб яны паслухаліся. Ілья Нікалаевіч любіў праводзіць свой вольны час таксама ў сям'і, займаючыся з дзецьмі або гуляючы з імі, расказваючы ім што-небудзь.

Чытаць Валодзя навучыўся ў мацеры з год пяці. І ён і сястра Оля, якая вучылася адначасова з ім, вельмі палюбілі чытанне і з ахвотай чыталі дзіцячыя кнігі і часопісы, якіх шмат атрымліваў наш бацька.



*Ілья Нікалаевіч Ульянаў*
*(бацька В. І. Леніна).*

Сталі яны хутка чытаць і апавяданні з рускай гісторыі, завучвалі напамяць вершы. Гэта любіла, між іншым, больш Оля, якая ведала многа доўгіх і нялёгкіх вершаў і вельмі выразна гаварыла іх напамяць.

Любімым вершам Валодзі, калі яму было гадоў сем—восем, была «Песня

бабыля», і ён з вялікім задорам дэкламаваў:

Багачу-дур-раку
І з казной не спіцца,—
Бядняк гол, як сакол,
Пяе, весяліцца.

Напэўна, яна яму да душы прышлася.

Асабліва любімых кніг у Владзіміра Ільіча ў дзіцячыя гады не было. Ахвотна чытаў ён часопіс «Детское чтение».



*Марыя Александраўна Ульянава (маці В. І. Леніна).*

Начытаўшыся, бег з сястрою гуляць, прычым любіў больш шумныя, рухавыя гульні. Летам яны беглі на двор і ў сад, лазілі на дрэвы, гулялі разам з намі, дваімі старэйшымі, у «чорную палачку» (цяпер гэтая гульня называецца «палачкай-застукалачкай»). Валодзя вельмі любіў гэтую гульню, а пазней—кракет. Зімою катаўся на санках з гары, якую рабілі ў нас на двара, гуляў у снежкі з таварышамі, а пазней пачаў катацца на каньках.

Памятаю, як на гарадскім катку ў Сімбірску ён і старэйшы брат Саша каталіся на каньках з высокіх гор, з якіх і на санках спачатку страшна было ляцець—такія яны былі крутыя. Сагнуцца спачатку ў тры пагібелі на верхняй, самай крутой частцы гары, затым паступова выпростваюцца і доўга-доўга коцяцца па раскату ўжо ва ўвесь рост. Я толькі з зайздрасцю паглядвала на іх, а пераймаць ад іх не адважвалася. Пры гэтым Валодзю, па-мойму, катацца было лягчэй, чым Сашу: ён быў невялікага росту, каранасты, дужы. Але на каньках Валодзя катаўся, вядома, пазней, гімназістам.

Валодзя любіў і пасваволіць, але ён быў праўдзівым: насваволіць і заўсёды прызнаецца. Так, ва ўзросце пяці год ён зламаў раз лінейку старэйшай сястры, якую яна толькі перад гэтым атрымала ў падарунак. Ён сам прыбег са зломанай лінейкай сказаць ёй аб гэтым; а калі яна запыталася, як гэта здарылася, сказаў: «Аб калена зламаў», прыпаднімаючы нагу і паказваючы, як гэта здарылася.

— Добра, што ён не робіць нічога ўпотайкі,—гаварыла маці.

... Другі раз, калі яму было восем год, ён утаіў адзін свой учынак. Ён быў узяты бацькам разам са старэйшымі ўпершыню ў Казань, каб ехаць адтуль у вёску Кокушкіна, да цёткі. У Казані, у кватэры цёткі, ён, разбегаўшыся і разгуляўшыся з роднымі і стрыечнымі братамі і сёстрамі, штурхнуў незнарок маленькі столік, з якога зваліўся на падлогу і ўшчэнт разбіўся шкляны графін. У пакой увайшла цётка.

— Хто разбіў графін, дзеці?—спытала яна.

— Не я, не я,—гаварыў кожны.

— Не я,—сказаў і Валодзя.

Ён спалохаўся прызнацца перад мала знаёмай цёткай, у чужой кватэры; яму, самаму малодшаму з нас, цяжка было сказаць: «я», калі ўсе астатнія гаварылі лёгкае: «не я». Вышла такім чынам, што



*Владзімір Ільіч з сястрой Ольгай Ільінічнай у 1874 годзе.*

графін сам разбіўся. Мінула два або тры месяцы. Валодзя даўно ўжо выехаў з Кокушкіна і жыў зноў у Сімбірску. І вось аднойчы вечарам, калі дзеці ўжо ляглі спаць, і маці, абыходзячы на ноч іх ложкі, падышла і да Валодзевага, ён раптам расплакаўся.

— Я цёцю Аню абмануў—сказаў ён, усхліпваючы,—я сказаў, што не я разбіў графін, а гэта-ж я яго разбіў.

Маці ўсцешыла яго, сказаўшы, што напіша цёці Ані і што яна, напэўна, даруе яму.

А Валодзя паказаў гэтым, што ілжывасць яму праціўна, што хоць ён сказаў няпраўду, не асмеліўшыся прызнацца ў чужым доме, але не мог супакоіцца, пакуль не прызнаўся.

**А. І. УЛЬЯНАВА.**



# Пад шум бору

*Пілip ПЕСТРАК*

*Мал. В. Басава*

Няхай сабе шуміць бор за сцяною, няхай пазіраюць між плывучых хмар ветраныя зоры, абы ў хаце гарэла капцілка пры коміне.

Вячэра—міска бульбы з малаком—ужо з'едзена. Можна залезці на печ, бліжэй да капцілкі, легчы жыватом і ўзяць у рукі кніжку.

... З печы звесілася кучаравая галава хлопчыка з цудоўнаю кніжкаю ў руках. І кніжка гэта завецца «Роднае слова».

Маці чысціць бульбу на заўтра і дрэмле—яна стамілася за дзень на полі, і ёй хочацца спаць.

Бацька вострым нажыкам любоўна абрэзвае, раўняе лазовую кару. Малыя дзеці ўжо заснулі. Цішыня... Толькі з печы даносіцца мернае чытанне кучаравага хлопца.

Бацькі, здаецца, не звяртаюць увагі на гэтае чытанне—маўчаць, занятыя сваёй працай. Але гэта няпраўда, бо бацька час-ад-часу ўстаўляе нешта «сваё» ў тэкст чытання.

«Ой, ты Юрачка,
Што не вучышся?
Так да невукаў
Ты далучышся»—

даносіцца з печы. Бацька ўсміхнуўся і заварушыўся.

— Пра каго гэта там так напісана?— спытаў.

— Мгі... пра каго?.. пра Юрачку...— смеючыся, адказвае хлопец.

— Ой, не! Юрачка гэта так сабе там пастаўлены... Ты вось не здагадваешся, што гэта якраз пра цябе...

Хлопец пярэчыць:

— Не... тут-жа пра Юрачку напісана...

— То хіба ты не такі самы, як Юрачка?... Такі самы...

— Не, я не такі... Ай, што ты, тата, выдумляеш,—пратэстуе сын.

— Вось табе і выдумляеш... Я выдумляю... Вось заўтра спытаюся ў настаўніка, як ты яму адказаў.

— Пытайцеся сабе, я не баюся...

Тут устаўляе слова і маці:

— А ў нядзелю хто бегаў з сабакам на рэчку і прабыў аж да вечара без абеда?.. То ты такі вучань?

Сын прамаўчаў і чытаў далей:

А як вырасцеш
Ты няўмекаю,
Усе высмеюць
Недарэкаю.

— О, бачыш, кім ты будзеш, як вырасцеш, — падхапіў бацька. — Як не будзеш вучыцца, то вось і будзеш, як там напісана—«недарэкаю».

— Я не буду недарэкаю... — адказаў хлопец.

— А кім ты будзеш? Можа, якім інжынерам, або... або губернатарам?

— Я не ведаю, што такое губернатар.

— Ну, то добра, будзеш інжынерам. Будзеш будаваць чыгункі, на паравозе ездзіць... Хочаш?

У хлопца бліснулі вочы. З непрыкрытай уцехаю ён адказаў:

— Хачу...



— Ну, вось, толькі вучыся, дык і будзеш інжынерам... Калейку нам пабудуеш праз лес аж да возера. Будзем ездзіць, вазіць лес, рыбу. Вось зажывем... Ну, чытай, чытай, зараз пойдзем спаць...

— А ты выдумаў нейкага губернатара, дадумаўся ,— прамовіла маці. — Гэта-ж за царом былі такія крывапіўцы.

— Ты думаеш, што я ўжо нічога і не ведаю. Адна ты разумная...—усміхаючыся, адказвае бацька.

... Я ляжаў на матрацы, напханым свежай саломай. Дрэма паволі стуляла павекі. У вушах—аднастайны шум бору за акном. Я не ведаю, колькі часу будзе чытаць кучаравы хлопчык на печы, . што будзе яшчэ казаць яму бацька, скрываючы сваю ўцеху. Але я ведаю адно, што тут матылёчкам мігціцца шчасце нашай шчаслівай сям'і.

Картуз-Бярэзкі раён,
Брэсцкая вобласць.

# СОНЦА

*Р. НЯХАЙ*

*Мал. Ф. Круглянскага*

Чалавеку патрэбна сонца,
Трэба свет для яго жыцця.
У далёкай чужой старонцы
Памірала ў турме дзіця.

Яго немцы забралі летам:
Кажуць бацька быў партызанам.
Захавалі далёка ад свету,
Ад жывых беларускіх туманаў.

Чахлі дні ў камяніцы душнай,
Дзе сасніць толькі можна блакіт.
А тым часам з радзімы мужнай
Прарываліся нашы палкі.

І аднойчы ў зімовы вечар
Знікла стража з усіх дзвярэй.
На дзіцячыя хворыя плечы
Водблеск паў ад агню батарэй.

Адчуваў ён душою кволай,
Што з радзімы байцы прышлі
І прынеслі дзіцяці волю,
Цеплыню дарагой зямлі.

А пяхота ішла бясконца.
І быў яму кожны брат.
Іскрылася чыстае сонца
у светлых вачах салдат.



# Змітрок

# БЯДУЛЯ



*Змітрок Бядуля.*

23 красавіка споўнілася 60 год з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі. Сапраўднае яго прозвішча—Самуіл Плаўнік.

Нарадзіўся Бядуля ў 1886 годзе ў мястэчку Пасадзец, на Вілейшчыне. Бацька яго быў местачковым балаголам.

Ужо ў дзіцячыя гады Самуіл вельмі любіў маляваць. Паперы і алоўка не было, дык ён маляваў вуглем на чым папала. Аднойчы, калі нікога не было дома, ён замаляваў вуглем усе сцены толькі што выбеленай хаты. «Мастака», вядома, за гэта адлупцавалі. Але маляваць ён не перастаў.

У сем год хлопчыка паслалі вучыцца ў пачатковую рэлігійную школу—хедэр. Аднак сумная рэлігійная навука зусім не цікавіла здольнага хлопчыка. «У мяне было вялікае жаданне маляваць,—пісаў пазней Бядуля пра гэты час,—але мяне ў хедэры, памятаю, часта білі за тое, што я пэцкаў паперу. Маляванне лічылася непрыстойным для дзіцяці ў хедэры».

У трынаццаць год яго паслалі вучыцца ў ешыбот на рабіна. Але і з гэтай навукі нічога не выйшла, бо ён пачаў захапляцца кнігамі, у якіх апісвалася сапраўднае жыццё людзей. За чытанне такіх кніг выгналі са школы.

І Самуіл уцёк з ешыбота ў Мінск, дзе даваў урокі дзецям і вучыўся сам. Тут ён вывучаў рускую мову, чытаў лепшыя творы рускіх пісьменнікаў. Потым і сам пачаў пісаць па рускай мове.

З Мінска ён вярнуўся дамоў у Пасадзец, дзе спачатку працаваў настаўнікам, а пасля прыказчыкам у лесе. Жыў разам з лесарубамі і сплаўшчыкамі лесу на ўлонні прыроды, спаў разам з імі на беразе ракі. З вялікай цікавасцю слухаў гутаркі лесарубаў аб іх жыцці, казкі і песні. «Беларускае сялянства было мне блізкім яшчэ з дзіцячых гадоў. Беларускай мовай я ўладаў яшчэ тады, калі дзіцём гуляў на местачковым дзядзінцы з сялянскімі дзецьмі»,—успамінае пісьменнік.

Аднойчы яму трапілася руская газета, у якой быў надрукаваны першы верш Янкі Купалы—«Мужык». Бядуля вельмі ўзрадаваўся, што ёсць людзі, якія пішуць такія ўдалыя вершы на роднай беларускай мове. А калі пачала выходзіць першая беларуская газета «Наша Ніва», Бядуля пачаў пісаць у яе. Спачатку пісаў допісы з жыцця лесарубаў, а потым і мастацкія творы. У сваіх творах ён расказваў аб цяжкай долі беларускага народа.

У 1912 годзе ён прыехаў у Вільню, дзе сустрэўся з Янкам Купалам. Творы Бядулі дужа спадабаліся Купалу. З гэтага часу Бядуля астаўся працаваць у беларускай газеце. У тым-жа годзе выйшаў яго першы зборнік апавяданняў «Абразкі».

За час сваёй літаратурнай работы Бядуля напісаў шмат выдатных твораў. Ён пісаў вершы, апавяданні, аповесці; напісаў вялікі двухтомны раман «Язэп Крушынскі». Яго аповесць «Салавей» з'яўляецца адной з лепшых кніг у нашай літаратуры. Свае дзіцячыя і юнацкія гады ён апісаў у аповесці «У дрымучых лясах». Не забываў пісьменнік і пра дзіцячага чытача. Пасля Кастрычніка ён выдаваў для дзяцей часопіс «Зоркі», дзе надрукаваў шмат сваіх казак, вершаў, апавяданняў.

За выдатныя заслугі ў мастацкай літаратуры пісьменнік быў узнагароджан ордэнам Працоўнага чырвонага сцягу.

Памёр Змітрок Бядуля 4 лістапада 1941 года.




*Змітрок БЯДУЛЯ*

*Мал. А. Волкава*

На небе толькі што ўзышла паўночная зорка. Ледзь-ледзь вызначаюцца чорнымі асілкамі высокія стагі. На пагорку, ля самага броду рэчкі, Мацей Тадэўчык — стары рыбак і паляўнічы — сядзіць на перавернутым чаўне пры слаба тлеючым вогнішчы і дыміць люлькай. Побач ляжыць на карчы яго стрэльба-дубальтоўка.

Мацей расставіў нанач венцяры ў затоках, а сам астаўся вартаваць, каб ніхто з блізкіх вёсак іх не вытрас, як часамі падшывальцы любілі рабіць.

Ля ног рыбака сядзіць калматая, чорная сучка Мурза — яго друг і таварыш заўсёды і ўсюды. Часам яна насцярожваецца, утаропіць вострую морду ў бок скарбовага цёмнага лесу, што стаіць на другім баку рэчкі, буркне, піскне, прытуліцца цясней да кален гаспадара і зноў замоўкне, нюхаючы пільна вільготнае паветра.

Ціхая і мёртвая асенняя ноч. Цемра густымі пластамі ляжыць на балоце і якбы душыць усё. Нехта за рудаўкай на купінах дрыгвы хоча голасна запець, але як-бы захлёбваецца, і толькі бульбу-у-у-ух чуваць па баках. Няясныя зыкі заміраюць у цемры...

Часамі птушка запішчыць жаласлівым голасам. Часамі затрашчыць нешта ў бары, заскрыпіць хвоя аб хвою. Гэта вецер прачынаецца і вандруе па лесе...

У паветры адчуваецца халодная вільгаць. Дождж—не дождж, а нешта вострае і калючае, дробнае і густое.

Мурза ўсё пільней аглядаецца па баках, усё рупней нюхае паветра, гіркае і непакоіцца.

— Што гэта робіцца з табою сёнейка? Хай цябе немач, хай цябе,—кажа Тадэўчык да Мурзы і плюе ўбок. Ладзіцца заснуць пад кажухом, але нешта сон не бярэ. Трывога сабакі перадаецца і яму.

— Хай цябе немач, хай цябе!

Тадэўчык устае, папраўляе вогнішча, напіхае зноў тытуну ў люльку і дзівіцца:

— Ліха ведае! Здаецца, ужо гадоў сорак, з самага маленства, начую тутака і заўсёды сплю, як пасля кірмашу, а сёнейка нешта не тое... Сабака, каб яго немач, чуе штосьці.

Тадэўчык апасліва азіраецца па баках, лыпіць вочы ў цемру, моршчыць лоб, а нічога ўгледзець не можа. Ён бярэ дубальтоўку, старанна выдувае куркі, вымае з раменнай сумкі пістоны, надзявае і не выпускае ўжо дубальтоўкі з рук. Мурза пры гэтым падбірае пад сябе хвост, апускае галаву і жаласліва вые.

У самым вясёлым месцы, калі часам дзе на падворку сярод белага дня сабака ні з таго, ні з сяго пачынае выць, нейкая жудасць нападае на чалавека. А тут, у глушы, у Тадэўчыка ажно мурашкі заёрзалі па скуры.

— Ну, ціха, ціха! Якая трасца цябе бярэ? — просіцца ён у сабакі і гладзіць яго па натапоршчанай шэрсці. Сабака на момант цішэе, і Тадэўчыку робіцца лягчэй.

Вецер узмацнеў. Хмары засланілі ўсё неба. Пачаў сыпаць дробны і густы дождж. Усё злілося ў адно — і стагі, і дрэвы, і прастор. Нічога не відаць. Як у студні ўсёроўна. Круг цемры ўсё цясней і цясней абхоплівае вогнішча. Глуханань ночы трывожыць.

— А мо' лепей было-б сягоння на печы спаць, як Наста, жонка мая, раіла, а то няхай яе немач, няхай яе... А ўсё гаво-



раць, што мядзведзь ходзіць па нашай ваколіцы. Збіраюцца нават аблаву рабіць.

Думаў Тадэўчык пайсці цяпер дахаты, але спыніўся. Яму здавалася, што, калі зварухнецца з месца, хтосьці кінецца на яго.

Гэтак прайшло яшчэ з гадзіну. Урэшце Тадэўчык пачаў злавацца сам на сябе: шолаху і трэску ў кустах баіцца! Сорам!.. Тым часам з супроцьлеглага берага рэчкі, ля броду, яўна пачуліся цяжкія крокі... Сэрца Тадэўчыка абмерла. Мурза падскочыла да берага і пачала голасна брахаць, а Тадэўчык, сціснуўшы дубальтоўку ў руках, крыкнуў не сваім голасам:

— Хто там?

У адказ — толькі цяжкае сапенне ў вадзе.

— Мядзведзь! — прахрыпеў Тадэўчык і адскочыў ад агню, каб лепей было цемры ўглядацца ў звера і цэліцца ў яго з дубальтоўкі.

Мурза заскавытала і кінулася назад да Тадэўчыка.

Сапенне наблізілася. У Тадэўчыка шапка на галаве падымаецца. Ён коле вачыма цемру, ды нічога не бачыць. Ён акамянеў ад страху і не можа крануцца з месца. Голас яго асекся.

Тым часам мядзведзь напіўся вады, вышаў на бераг і на задніх лапах, як старая баба ў перавернутым кажусе, накіраваўся да вогнішча...

Калі Тадэўчык угледзеў, што мядзведзь ідзе на задніх лапах, як чалавек, пераваліваючыся пры гэтым з адной нагі на другую, страх яго крыху зменшыўся з прычыны такога падабенства да чалавека. Ён адсапнуўся і ўжо мог крануць рукой і нагой. Сабака пішчаў на розныя лады. Мядзведзь наступіў нагамі на

агонь, атросся і пачаў таптаць вогнішча. Яно задыміла і пачало гаснуць.

— Ратуй, божа, — сказаў Тадэўчык у думках, прыцэліўся і націснуў курок.

— Асечка! Порах, мабыць, мокры, каб яго немач, каб яго!

Прыціснуў пальцам другі курок, і нічога не вышла. Пістоны ляпнулі, а набоі асталіся.

Пачуўшы ляпанне стрэльбы, мядзведзь з гнеўным мармытаннем рынуўся на Тадэўчыка.

Вырваў з рук чалавека стрэльбу, зламаў напалам, адкінуў убок і абхапіў пярэднімі лапамі Тадэўчыка, як добры сябра, які хоча кума пацалаваць... Тут Мурза асмелілася ды з гучным гаўканнем накінулася на мядзведзя і давай рваць яго зубамі за заднія ногі. Мядзведзь курчыўся ад болю, паваліў Тадэўчыка і кінуўся на сучку. Яна пусцілася наўцёкі. Тадэўчык ачухаўся, звыкся трохі са страхам, і мазгі яго хутка запрацавалі:

— Уцякаць трэба не на грэблю, але ў зыбуху, у тыя кусты, дзе ў замаразках бабы журавіны збіраюць. Там мядзведзь мяне не дагоніць.

Ускочыў на ногі—і наўцёкі, але мядзведзь пусціўся за ім удагонку... Хаця Тадэўчык бег хутка, не аглядваючыся, але пачуў праз колькі хвілін за сваімі плячыма цяжкае дыханне звера.

Лапа, цяжкая і вострая, уелася ў паясніцу і зноў паваліла яго...

Мядзведзь стараўся дабрацца лапай да яго твара і горла, але чалавек урыўся галавой у мяккую зямлю. Тым часам Мурза насела на карак мядзведзя і ўгрызлася зубамі глыбока ў яго мяса. Мядзведзь ад болю моцна зароў і зноў пакінуў чалавека. Ён стараўся сцягнуць Мурзу з свайго карка. Трос галавой, круціўся ва ўсе бакі, увіхаўся, а сабака грыз яго не на жарт.

Тадэўчык пачуў, што на плячах у яго мокра, але, не звярнуўшы на гэта ўвагі, з усіх сіл ускочыў на ногі і пабег да кустоў.

Хмары сплылі з небасхілу. Паказаўся мутначырвоны месяц і слаба асвяціў абшар балота.

Мядзведзь скінуў Мурзу з сябе і зноў, з яшчэ большым імпэтам, пагнаўся за чалавекам. Тадэўчык спрытна пераскокваў з адной купіны на другую па дрыгвяных рудаўках, а мядзведзь ззаду чабохтаўся, таксама досыць вёртка, але Мурза не давала яму спакою—рвала за ногі, за бакі. Тадэўчык, не чуючы болю, не аглядаючыся, імчаўся ўсё далей і далей. Гэткім чынам выбраўся ён з кустоў на поле. Ён чуў голас Мурзы далёка за сабою.

На чыстым полі ён падняў гвалт. Ад вёскі было не надта далёка, і хутка па ўсёй ваколіцы пачалі брахаць сабакі.

Тадэўчык выбраўся на гасцінец, увесь у крыві і гразі, крычаў не сваім голасам:

— Людцы, ратуйце!

Вясковыя ляцелі да яго з крыкамі:

— «Хто гэта?» «Што гэта?»

Яны думалі, што канакрад папаўся.

— Мядзведзь! — крыкнуў Тадэўчык і страціў прытомнасць.

Назаўтра людзі знайшлі ля рэчкі сляды мядзведзя, знайшлі паламаную напалам дубальтоўку, але Мурза прапала.

Тадэўчык доўга лячыўся ад ран на руках і плячах, ачуняў і зноў начаваў адзін на балоце і ставіў нанач венцяры ў затоках. Толькі добрага сабакі не мог сабе нажыць.

Кожны раз, апавядаючы аб тым, як сабака абараніў яго ад мядзведзя, ён стагнаў па ім, як па родным сыну.

Вільна 1914 г.






*С. ТУРЧЫНОВІЧ*

*Мал. Ф. Круглянскага*

Гэта было яшчэ ў першым паўгоддзі...

Калі ў калідоры гучна празвінеў званок на перапынак, Талстова Зоя, радасная і вясёлая, першая выбегла з класа. Для яе сёння самы шчаслівы дзень—яна атрымала «тройку». Ёй хацелася, каб хутчэй скончыліся заняткі ў школе, каб хутчэй пайсці дадому і паказаць бацькам дзённік, у якім сярод «двоек» і «адзінак» закрасавалася першая «тройка». Цяпер яна паабяцае бацькам, што больш ужо ніколі не атрымае дрэнных адзнак.

А ў гэты самы час яе аднакласніца Іра Клішына падышла да настаўніцы:

— Ольга Грыгор'еўна, — сказала яна, — вы заўтра выклічце мяне. Мне сорамна за сёнешні свой адказ. Я не хачу, каб у мяне заставалася «чацвёрка»...

І хоць Ольга Грыгор'еўна сказала, што абавязкова выкліча, Іра была засмучоная і ўвесь перапынак сядзела ў класе. Яна ўжо добра абдумала, што будзе рабіць, калі прыдзе дадому: паабедае, збегае ў магазін па хлеб, прынясе дроў і будзе рыхтаваць хатнія заданні. А калі застанецца час, дачытае «Каўказскага палонніка» Л. Талстога.

І сапраўды ў яе на ўсё хапіла часу.

Вечарам, калі бацька прышоў з працы, Іра сказала:

— Тата, я ўжо прачытала «Каўказскага палонніка».

— Спадабалася кніжка?—запытаўся бацька.

— Вельмі спадабалася. Там такія настойлівыя і мужныя людзі!

І ёй яшчэ больш стала крыўдна за сваю сёнешнюю «чацвёрку». Я-ж магу выдатна вучыцца,—думала яна.—Трэба толькі быць настойлівай і не ленавацца».

Назаўтра Ольга Грыгор'еўна выклікала Іру і за выдатны адказ паставіла «5». З гэтага дня Іра ўжо ніколі не атрымлівала «чацвёрак».

Цяпер, калі да экзаменаў засталіся лічаныя дні, Іра Клішына—вучаніца IV класа «Б» 2-й сярэдняй школы гор. Мінска — з прыемнасцю падводзіць вынікі сваёй работы за год. У яе няма ніводнай адзнакі «4». За год яна прачытала каля 20 мастацкіх кніг, сярод якіх: «Дзяцінства» Горкага, «Як гартавалася сталь» Н. Астроўскага, апавяданні Льва Талстога і іншыя. Яна мае добры звычай: запісваць у дзённік усе прачытаныя кніжкі і свае кароценькія заўвагі. Кніжкі дапамаглі ёй лепш вывучаць мову. Вось чаму адказ яе на ўроку заўсёды прыемны, сакавіты, а пісьмовыя працы—лепшыя ў класе.

Іншыя вынікі ў Зоі Талстовай.

Упершыню атрымаўшы «тройку», яна абабегла ўсіх сваіх сяброўак, пахвалілася адзнакай і не прыкмеціла, як мінуў дзень.

Хатнія заданні яна ўжо выконвала позна вечарам пры электрычным святле. Прачытала ў сшытку ўрок па гісторыі, а ў падручнік нават і не зазірнула. Практыкаванні па мове і матэматыцы выконвала спяшаючыся і зрабіла шмат памылак.

Назаўтра запыталася настаўніца ў Зоі ўрок па гісторыі, а Зоя і не ведае, што казаць. Так і атрымала «двойку».

Аднойчы ў другім паўгоддзі аднакласніцы запыталіся ў Зоі:

— Чаму ты так дрэнна вучышся? Бачыш, як выдатна адказвае Іра...

Зоя, не задумваючыся, сказала:

— Я не магу раўняцца з Іраю: у мяне няма такіх здольнасцей.

Але словы сяброўак усё-ж яе ўстурбавалі. Яна нават рашыла сур'ёзна ўзяцца за вучобу. З такімі думкамі ішла яна пасля заняткаў дадому. Дома, паабедаўшы, Зоя праз акно ўбачыла на вуліцы дзяцей і падумала: «Не, сёння яшчэ пагуляю, а вось заўтра... Заўтра абавязкова пачну рыхтавацца».

Аднак не выканала яна заданняў і ў наступны дзень. А адклад, як вядома, ніколі не ідзе ў лад. Навучальны год падышоў к канцу, а ў Зоі як былі «двойкі», так і засталіся.

Вось і вышла, што навучальны год прайшоў для яе дарма.




# пяць

## ВІЦЕБСК ПРАЗ 5 ГОД

1950 год. Пасажырскі поезд спыніўся пад шкляным дахам новага вакзала. Па шырокай мрамарнай лесвіцы сыходзім на прывакзальны пляц. Садзімся ў трамвай. Ён імчыць нас па праспекту імені Кірава.

Як змяніўся наш родны горад! Яшчэ ў 1946 годзе на гэтым месцы ляжалі груды цэглы, стаялі абпаленыя камяніцы. Цяпер мы бачым шырокую асфальтыраваную вуліцу з маладымі зялёнымі дрэвамі ўздоўж тратуараў. Паабапал праспекта—вялікія і прыгожыя вітрыны магазінаў; зіхацяць зашклёныя пад'езды новых дамоў. А вось прыгожы будынак аднаго з лепшых кінотэатраў горада «Першае мая».

Трамвай падыходзіць да ракі Заходняя Дзвіна. Мы пераязджаем новы мост. Пяць год назад па гэтым месцы быў паром, а цяпер... па масту туды і назад бягуць трамваі, аўтобусы, машыны, спяшаюцца пешаходы. Па рацэ з-пад маста выплывае рачны трамвай, упрыгожаны рознакаляровымі сцяжкамі. Гэта маленькія пасажырскія параходзікі. Недалёка адсюль рачная прыстань з вялікай колькасцю малых і вялікіх рачных параходаў.

На беразе ракі ўзвышаюцца карпусы металургічных заводаў імені Кірава, «Камінтэрн» і акулярнай фабрыкі.

Мы на вуліцы імені Праўды: злева кінотэатр, а справа — вялікі трохпавярховы універсальны магазін.

Трамвай тут робіць паварот. Ён падыходзіць да Пляца Волі. Яшчэ нядаўна на гэтым пляцы быў адзін вялікі будынак абкома партыі, а цяпер вакол узвышаюцца новыя будынкі. Ля ракі Віцьба стаіць прыгожы помнік совецкім лётчыкам—Героям Айчыннай вайны.

Трамвай вышаў па Ленінскую вуліцу. Тут будынкі стаяць толькі з аднаго боку, а з другога, да самага берага ракі Віцьба, зелянее вялікі гарадскі парк. Ля парка—кіно-тэатр «Спартак».

На пляцу Леніна мы бачым скверык, адноўлены будынак Беларускага драматычнага тэатра. Ля тэатра, на п'едэстале, узвышаецца высокая скульптура заснавальніка нашай дзяржавы—вялікага Леніна. Ён стаіць, паказваючы нам рукою дарогу да шчасця.

## год

Увесь горад у зелені. Берагі Заходняй Дзвіны абсаджаны дрэвамі. На Успенскай горцы стаіць помнік «Перамога».

На ўскраінах горада, дзе ў асноўным размяшчаюцца прамысловыя прадпрыемствы, пабудаваны рабочыя пасёлкі. Будынкі ў пасёлках стандартныя, невялікія, але прыгожыя, утульныя. Такія пасёлкі пабудаваны па Суражскаму тракту і ў раёне Маркаўшчына.

Як-жа завецца гэты цудоўны горад? Гэта наш Віцебск праз пяць год. Чацвертая Сталінская пяцігодка адновіць горад, разбураны нямецкімі фашыстамі.

Праўда, усё гэта яшчэ планы.

Але мы глыбока ўпэўнены, што наш родны горад сапраўды будзе такім.

Навум ВАРАНЕНКА,
Валодзя ГАРУЧКА.

Віцебск, 10 сталінская школа.

## МАЯ ШКОЛА

Да вайны наша Сталінская школа была лепшай у Віцебску. Яна мела чыстыя, утульныя класы, кабінеты, вялікую бібліятэку.

Фашысты вывезлі ўсё абсталяванне школы, спалілі кнігі і падручнікі, паламалі фізічныя і хімічныя прылады.

Але, як толькі Чырвоная Армія вызваліла горад, школа пачала працаваць. Праўда, вучыцца было цяжкавата: нехапала падручнікаў, сталоў, не было электрычнага святла. Замест шкла ў вокнах была фанера.

Цяпер наша школа аднаўляецца. За годы Сталінскай пяцігодкі яна зноў стане лепшай у горадзе. Праз пяць год замест нашага непрыгожага школьнага будынка будзе стаяць вялікая светлая школа з калонамі пры ўваходзе. Добра будуць абсталяваны фізічны, хімічны і біялагічны кабінеты, багатая будзе бібліятэка.

Пасля заняткаў вучні змогуць адпачыць у піянерскім і ленінскім пакоях, паплаваць у водным басейне, або заняцца спортам у спартыўнай зале.

Вясной можна будзе пагуляць у школьным садзе.

Тамара ГУЦЕВА.

Віцебская 10 сталінская школа.




## НА ПУСТЫРЫ БУДЗЕ САД

Згодна Сталінскага плана аднаўлення, наш калгас «Новы шлях» гэтай вясной адводзіць 15 гектараў зямлі пад сад. Будзе пасаджана 50 тысяч садовых дрэў.

Мы, вучні, з захапленнем будзем прымаць удзел у пасадцы калгаснага саду.

Міне пяць год, і я буду студэнткай інстытута. Улетку на канікулы прыеду адпачываць у свой калгас. Прыемна будзе пагуляць па шырокай, пасыпанай жоўтым пяском, вуліцы, або адпачыць у калгасным садзе ў цяні пад яблыняй. Прыемна будзе прыгадаць, як гэтыя яблыні я ў 1946 годзе сама садзіла.

Аня КІБІСАВА.

Багушэўская сярэдняя школа.




# Белавежская Пушча

Віталь ВОЛЬСКІ

*Мал. Ф. Круглянскага*

У 60 кілометрах на паўночны ўсход ад горада Брэста знаходзіцца вялікі лясны масіў. Займае ён плошчу ў 129 з паловай тысячы гектараў. Гэта — славутая Белавежская Пушча. Калісьці, у дагістарычныя часы, увесь абшар Еўропы, ад Уральскага хрыбта і аж да берагоў Атлантычнага акіяна, пакрывалі дрымучыя першабытныя лясы. Белавежская Пушча з'яўляецца часткай гэтых вялізных лясоў, якая захавалася да нашых дзён.

Па сваіх памерах, па багаццю і рознастайнасці флоры і фауны, па маляўнічасці краявідаў Белавежскай Пушчы належыць адно з першых месц сярод усіх лясоў Еўропы. Гэта — сапраўдны музей жывой прыроды. У Пушчы багата прадстаўлены ўсе асноўныя пароды дрэў. Сасновыя і яловыя бары, з высокімі стройнымі і гнуткімі соснамі, з цёмнымі, змрочнымі ялінамі-волатамі ў 46 метраў вышыні пры таўшчыні ў 3 абхваты, мяжуюцца з дубровамі, дубровы з бярэзнікам, які пераходзіць непрыкметна ў змешаны лісцяны лес, дзе растуць разам і дуб, і ясень, і ліпа, і клён, і граб, і асіна, і алешнік. Тут можна ўбачыць некрануты сякерай першабытны лес ва ўсёй яго казачнай велічы і прыгажосці.

Летам і ўвосень у лясах Белавежскай Пушчы выспявае безліч усялякіх ягад— чарніцы, суніцы брусніцы. На балотах растуць журавіны. Процьма грыбоў — баравікоў, рыжыкаў, падасінавікаў, падбярозавікаў, лісічак, апеняк — сустракаецца тут на кожным кроку. Але збор грыбоў і ягад забаронен у межах Пушчы, таксама як і паляванне на птушак і звяроў. Тут захаваліся да нашых дзён рэдкія пароды жывёл, якія зніклі ва ўсіх іншых краінах.

У Белавежскай Пушчы жыве на волі зубр — дзікі першабытны лясны бык, родны брат амерыканскага бізона. Калісьці зубры вяліся па ўсёй Еўропе, але да нашых дзён захаваліся толькі ў Пушчы. Гэта—адзінае месца ў свеце, дзе яны жывуць у натуральных умовах з часоў ледніковага перыяда. Яшчэ ў 1915 годзе ў Пушчы налічвалася 730 зуброў. Амаль усе яны былі знішчаны ў час імперыялістычнай вайны 1914—18 гадоў. Тыя, што засталіся жывымі, былі вылаўлены нямецкімі акупантамі і вывезены ў Германію, адкуль іх прадалі па розных звярынцах і заапарках усяго свету. У 1929 годзе ў Швецыі і Германіі былі выкуплены чатыры белавежскія зубры, прывезены на радзіму і выпушчаны на волю. Ім адвялі агароджаны участак Пушчы ў 4 кв. кілометры. Прывезеныя зубры далі прыплод. У 1941 годзе, напярэдадні вайны, у Пушчы налічвалася ўжо дваццаць шэсць зуброў. Зараз у Пушчы налічваецца 18 зуброў.

На другім адгароджаным участку пасвіліся ў Пушчы тарпаны, патомкі дзікага ляснога каня, які вёўся ў дагістарычныя часы, таксама як зубр, амаль па ўсёй Еўропе. У 1940 годзе ў Белавежскай Пушчы налічвалася сорак шэсць тарпанаў. Гэта—невялікі, але вельмі моцны і трывалы конь з усімі адзнакамі свайго першабытнага продка. У яго вялікая галава з жорсткай, як шчотка, грывай на шырокай і кароткай шыі, мускулістае, прысадзістае цела на малень-



*Лясная рэчка ў Пушчы.*



*Стары зубр.*



*Тарпан.*

кіх, але моцных нагах. Па выгляду сваму і пабудове цела тарпан нагадвае дзікага каня Пржэвальскага ў пустынях далёкай Манголіі. Па колеру свайму белавежскія тарпаны мышастыя ці пясочна-жоўтыя. Па спіне, ад грывы да хваста, праходзіць у іх цёмны пас, як у асла. На ніжняй частцы ног чорныя папярэчныя палосы. Тарпаны жывуць у лесе на свежым паветры ўвесь год, і летам і ўзімку. Яны не баяцца холаду. Зімой у іх мяняецца афарбоўка, — гэтым яны адрозніваюцца ад усіх іншых коней. Яны абрастаюць даўгім белым пухам. З надыходам вясны гэты пух выпадае. Усю вельмі суровую зіму 1939—40 года яны правялі ў лесе на марозе у 30—40°, выкапваючы сваімі моцнымі нагамі сухую пажоўклую траву з-пад глыбокага снегу. Тарпан лёгка ўмее хадзіць па такой дрыгве, дзе звычайны конь баіцца нават нагу паставіць, ведаючы, што безнадзейна загрузне і загіне ў балоце. Ад скрыжавання з хатнім сялянскім канём тарпан дае надзвычай моцнае і трывалае патомства. Пасля вайны ў Пушчы засталося 14 тарпанаў.

У першабытнай лясной чашчобе, пад густым лісцяным навесам, заўсёды пануе паўзмрок і вільгаць. Сюды нават у ясны летні дзень не можа пранікнуць сонца. Гэта любімае месца дзікіх свіней. Мяккая вільготная глеба, густа пакрытая леташнім лісцем, уся ўзрыта і ўзарана іх капытамі і лычамі. Сюды вяртаюцца дзікія свінні кожную раніцу на досвітку з трысця на беразе балоцістай рэчкі, дзе яны ўсю ноч ласуюцца салодкімі карэннямі вадзяных раслін. Наперадзе ідзе стары чорны кабан-сякач. За ім цягнуцца свінні, падсвінакі. Ззаду дробным трушком спяшаюцца, штурхаючыся, смешныя, стракатыя парасяты. Увесь дзень праводзяць яны тут, у вільготнай засені сярод густых зараснікаў. Часам сюды заходзяць да іх, у пошуках жалудоў, і звычайныя хатнія свінні з навакольных вёсак. Яны часта сустракаюцца з дзікімі кабанамі. У вёсках на ўскраінах Пушчы не дзіва ўбачыць на сялянскім двары хатнюю свінню з жоўтымі, стракатымі парасятамі незвычайнага выгляду. Гэта — патомства дзікага кабана. У Пушчы шмат дзікіх свіней. У 1940 годзе іх налічвалася 1100 галоў.

Ёсць у Пушчы і прыгожыя алені і лёгкія, палахлівыя касулі. У 1940 годзе аленяў было 900 галоў, а касуль больш за 1 500. Былі тут калісьці і ласі, але ўсе яны былі знішчаны ў часе вайны 1914—1918 гадоў. У 1940 годзе невялікае стада ласёў, прывезеных у Пушчу з Палесся, жыло на асобным участку, у вальеры, пад доглядам вартаўніка.

З каштоўных прамысловых парод лясных звяроў вядуцца ў Пушчы куніца, выдра, тхор, гарнастай, вавёрка, ласіца, ліса. З буйных драпежнікаў—рысь і воўк. З птушак — глушэц, цецярук, рабчык, курапатка, дзікая качка, чорны бусел, жораў і інш.

Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя зрэдку сустракаліся ў Пушчы бабры, але хутка ўсе яны зніклі. Не дарма бытуе сярод жыхароў Пушчы прыслоўе:«Хто заб'е бабра, таму не будзе дабра». Меркавалася прывезці ў Пушчу ўвосень 1941 года чатыры пары баброў, каб выпусціць іх на волю і аднавіць у Пушчы гэту каштоўную і рэдкую жывёліну. Для гэтай мэты была вызначана адпаведная мясцовасць па р. Гвозне, але напад гітлераўскіх разбойнікаў на нашу краіну перашкодзіў гэтаму цікаваму намеру.

З XV стагоддзя Пушча з'яўляецца месцам, куды ездзілі на паляванне польскія каралі, літоўскія князі і рускія цары.

Аб колькасці звяроў у Пушчы сведчаць лічбы звяроў, забітых у часе апошняга царскага палявання з 18 па 30 жніўня 1900 года. У гэтыя дні царом і яго блізкімі было забіта 40 зуброў, 36 ласёў, 530 аленяў, 138 кабаноў, 325 касуль, 51 лісіца. Гэта было не паляванне, а сапраўдная бойня.

У часе нямецкай акупацыі 1915—1918 года Пушча зрабілася аб'ектам драпежніцкай эксплаатацыі. На тэрыторыі Пушчы былі пабудаваны прамысловыя прадпрыемствы, фабрыкі і заводы. Лясы высякаліся ў велізарных памерах і вывозіліся ў Нямеччыну. Тое самае рабілася і пры польскай уладзе. Лясы Пушчы былі зданы польскім урадам замежным канцэсіянерам. З 1921 па 1939 год у Пушчы палявалі польскія магнаты, кіраўнікі ўрада і іх замежныя госці.

Адразу пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР Пушча была абвешчана дзяржаўным запаведнікам, які павінен існаваць выключна для навуковай і культурна-асветнай мэты. Назаўсёды было забаронена ў Пушчы паляванне і вырубка лесу. Прамысловыя прадпрыемствы на тэрыторыі Пушчы былі зачынены і спынілі сваю дзейнасць. Пачалося навуковае вывучэнне Пушчы, яе прыродных багаццяў, расліннага і жывёльнага свету. Пушча ператварылася ў вялізны музей жывой прыроды, у навуковую лабараторыю, якая павінна была даць незлічоную карысць для ўсёй краіны, для працоўнага чалавека, для народнай гаспадаркі і культуры.

Напад нямецка-фашысцкіх захопнікаў часова спыніў гэту вялікую, толькі што распачатую працу. Гітлераўскія грабежнікі адразу ўзяліся за бязлітаснае разбурэнне народнага багацця, старадаўніх лясоў Пушчы. Лясныя звяры, якія прывыклі ва ўмовах запаведніка мала баяцца чалавека, бязлітасна знішчаліся акупантамі не толькі для ўласнай забавы, але і ў прамысловых мэтах. Мяса забітых жывёл, асабліва дзікаў, капцілася ў спецыяльна пабудаваных капцільнях і вывозілася ў Германію.

Гэта знішчэнне народнага багацця было спынена гераічным наступленнем Чырвонай Арміі. У ліпені 1944 года пасля жорсткіх і ўпартых баёў Чырвоная Армія вызваліла Белавежскую Пушчу і вярнула яе народу.





*Зубры ў Пушчы.*




# Міхаська

*М. ЗАЛЕСКІ* *Мал. Б. Басава*

Два хлопчыкі—Сымонка і Міхаська—ішлі ў лес па грыбы і размаўлялі.

— Сымонка, ці баішся ты хадзіць адзін па лесе?—запытаўся Міхаська.

Сымонка падумаў і адказаў:

— Напэўна, што адзін збаяўся-б.

— Які ты трус! Ты, мусіць, і ваўкоў баішся?—смеючыся, зноў запытаў Міхаська.

— Ваўкоў? А хіба-ж ты іх не баішся?

— А чаго баяцца? Я нікога не баюся,—пачаў хваліцца Міхаська.—Аднаго разу ноччу мама паслала мяне да цёткі ў Сакава. Узяў у рукі кій і пайшоў. Іду, іду, вось і лес пачынаецца. Цёмна вакол і на дарозе нікога няма, а мне хоцьбы што—не баюся! Іду далей, зірк, аж з-за куста воўк, і—проста на мяне! Вялікі такі, з Максімава цялё.

— З цялё?—здзівіўся Сымонка.

— А можа, брат, і большы будзе. Ох, каб ты бачыў! Страшны, вочы гараць, як свечкі, хвост даўгі, пушысты. Раскрыў рот і ляскае зубамі. Я не спужаўся. Падбег, ды як трэсну кіем, ён і здох.

— Адразу і здох?

— Дык я яму стукнуў, братка, па галаве.

«Які храбры Міхаська, няхай-бы і я такі быў»,—з зайздрасцю падумаў Сымонка.

Хлопчыкі і не прыкмецілі, як дайшлі да лесу. Гэта быў густы лес. Пахла ў ім прэлым лісцем, багуном. Дзе-ні-дзе тырчэлі карчы-вываратні, а вакол іх зялёнымі падушкамі рос мох, лапушылася папараць.

— Сымонка,—сказаў Міхаська свайму сябру,—будзем збіраць грыбы разам. Спярша набярэм табе, а пасля мне. Нельга разыходзіцца, бо калі воўк на цябе нападзе, дык што ты без мяне будзеш рабіць?

Сымонка спачатку задумаўся: можа праўду гаворыць Міхаська? Але хіба-ж можна набраць грыбоў, ходзячы разам па лесе?

— Не, — сказаў ён ,— тут ваўкоў няма, і гэты лес я добра ведаю. Ты ідзі ў той бок, а я пайду ў гэты і потым сустрэнемся.

Скрывіўся Міхаська, хацеў пярэчыць, але хіба-ж гэта будзе да твару храбрацу?

— Пабачыш, сустрэнешся з воўкам,—пагразіў ён Сымонку.

Ідзе лесам Сымонка, прыглядаецца пад кусцікі, прыслухоўваецца да вясёлых спеваў птушак. Вось баравічок з аксамітнай галоўкай прытуліўся пад кусцікам, а там бабка-тонканожка высока паднялася над травой, вось падасінавік, сыраежка. З кожнай хвілінай напаўняецца грыбамі Сымонкаў кошык.



*Міхаську страшна стала аднаму ў лесе.*

А Міхаську страшна стала аднаму ў лесе. Ён зірне то ў адзін, то ў другі бок, прысядзе нізка да зямлі і яшчэ раз зірне. Не да грыбоў Міхаську! Хутчэй-бы сустрэцца з Сымонкам, бо—чаго добрага—яшчэ воўк нападзе. Не ўбачыць тады Міхаська ні мамы, ні таты, ні сястрычкі Настачкі!

І пачало здавацца Міхаську, што ён чуе нейкі шорах—усё бліжэй і бліжэй,—як-бы хто крадзецца да яго.

Не вытрымаў Міхась, ды як закрычыць, ды як заплача:

— Мама, ваўкі!

Прыбег Сымонка, а Міхаська ўсё яшчэ крычыць немым голасам.

— Чаго, чаго ты?

— Ваўкі напалі на мяне,—плачучы, адказаў Міхаська.

— Эх, ты, храбры! Не мані, ніякіх ваўкоў тут няма,—рассмяяўся Сымонка.— Хваліўся, што нічога не баішся, а сам, напэўна, птушкі спужаўся.

— Ды не, нешта ў кусце шамацела!



*Міхаська моўчкі стаяў, апусціўшы вочы.*

— Ха-ха-ха, дык гэта-ж яшчаркі!

Міхаська моўчкі стаяў, апусціўшы вочы, і адчуваў, што вакол усе з яго смяюцца.

— Ну, і храбры Міхаська!—кпілі кусцікі.—Ну, і храбры Міхаська!—кпілі маладыя бярозкі.—Ну, і храбры Міхаська,—смяялася і сонейка,—яшчаркі спужаўся.

---

# РУЧАІ ЗАГУЛІ

*Анатоль АСТРЭЙКА*

Ручаі, ручаі загулі,
Зашумелі між гор і узвышшаў.
Кожны дзень ад халоднай зямлі
Падымаецца сонейка вышай.

У садах засвісталі шпакі,
Чутны жаўранка срэбныя звоны.
Мне прыемна стаяць ля ракі
І глядзець, як варушыцца Нёман.

Ён ільдзяныя рве кайданы,
Толькі пыркі ляцяць ад ільдзінаў,
Толькі шум, толькі трэск ільдзяны
Гулкім рэхам плыве па краіне.

Уздыхае свабодна рака,
Плешча хваляй у бераг няроўны.
Сець гатова ужо ў рыбака,
І агледжаны леташні човен.

Паплывуць караванам плыты
Да далёкага сіняга мора
Між шумлівых лясоў і густых,
Паміж гор і блакітных азёраў.

Пойдуць баржы на захад, усход
Для заводаў, для фабрык са снасцю,
Каб хутчэй наш асілак-народ
Адбудоўваў уласнае шчасце.



# Александр Суворaў

Александр Васільевіч Суворaў нарадзіўся ў Маскве ў 1730 годзе ў сям'і небагатага двараніна. Дзіцячыя гады Суворава прайшлі ў маёнтку Канчанскае, Ноўгарадскай губерні.

Саша Суворaў быў слабы здароўем, але шустры хлопчык. К дванаццаці гадам ён прачытаў шмат кніг і сваімі ведамі здзіўляў дарослых. Асабліва цікавілі яго кнігі аб палкаводцах.

Аднаго разу ў маёнтак Канчанскае прыехаў генерал Абрам Пятровіч Ганібал. Ганібал—прадзед вялікага паэта Пушкіна—быў сусед і сябра бацькі Суворава. Разам яны служылі ў арміі яшчэ пры Пятры I.

Маленькі Саша Суворaў толькі што пераплыў на сваім кані раку. Мокры і забруджаны ён забег у сенцы. Маці ўбачыла яго і пляснула ў далоні.

— А божухна! Як-жа я гэтакага пакажу яму!



*А. В. Суворaў.*

— Каму—яму?—запытаў Саша.

— Ганібалу! Ён-жа ўжо генерал!

— Ганібал? — здзівіўся Саша. — Ты смяешся з мяне, мама?

Саша толькі мінулай ноччу прачытаў кнігу пра палкаводца Ганібала, які разбіў войскі рымлян. Але гэта было даўно. І цяпер ён не разумеў, як мог гэты славуты палкаводзец трапіць да іх у дом.

— А які-ж ён з выгляду? — пацікавіўся хлопчык.

— Чорны, як сажа, адно вочы ды зубы белыя.

«Сапраўды,—думаў хлопчык,—палкаводзец Ганібал быў чорны, але...».

— Мама, дык Ганібал-жа памёр.

— Ды кінь ты глупства гарадзіць.

— Праўда, мама, ён памёр даўным-даўно, амаль дзве тысячы год назад.

— Казкі! Ідзі і сваімі вачыма ўбачыш!—і маці лёганька падштурхнула яго ў плечы.

Калі Саша зайшоў у пакой, дык і сапраўды ўбачыў чорнага з твару генерала, які сядзеў поплеч з бацькам.

— А вось і мой сын,—сказаў бацька, падвёўшы Сашу да генерала.

— Вы будзеце Ганібал?—хвалюючыся, запытаўся Саша.

Генерал у адказ кіўнуў галавой. Саша рассмяяўся. Ганібал падняўся і прыгарнуў да сябе хлопчыка.

— Не!—закрычаў у гэты час Саша Суворaў.—Я сёння ўсю ноч чытаў пра вашы паходы, а зараз... не разумею... Не, гэта не вы!

— Сапраўды, Саша, я Ганібал, але не той, пра якога ты думаеш. Я Ганібалам завуся па волі Пятра. А ты хочаш быць Ганібалам?

— Хачу, але і без мяне іх ужо два.

— Значыць, не хочаш быць трэцім?



*Александр Васільевіч Сувораў.*

— Не! — адказаў Саша.

— Ага, ты марыш быць першым. Але для гэтага, мілы, трэба шмат вучыцца і шмат ведаць.

— А я шмат і ведаю, — упэўнена адказаў Саша.

І сапраўды, калі генерал больш блізка пазнаёміўся з Сашам, дык быў вельмі здзіўлены яго глыбокімі ведамі. Саша ведаў французскую, нямецкую, польскую і італьянскую мовы. Добра ведаў гісторыю, інжынерную справу. Падрабязна расказваў пра ўсе паходы Александра Македонскага, Ганібала, Юлія Цэзара.

— Ён пойдзе далей нас з табой, — сказаў Ганібал. — Я запішу яго ў полк!

З гэтага дня вызначыўся лёс Суворава: ён быў залічаны салдатам у Сямёнаўскі полк. Слабаму здароўем Сувораву нялёгка давалася суровае салдацкае жыццё, але ён упарта пераносіў усе цяжкасці. У 1747 годзе, праз пяць год, яму прысвоілі званне унтэр-афіцэра, а яшчэ праз год— капрала. Першы афіцэрскі чын Суворaў атрымаў, калі яму было ўжо 24 гады.



*Пераход Суворава праз Альпы.*

* * *

Ішла вайна Расіі з Прусіяй, сямігадовая вайна 1756—1762 гадоў.

Рускія войскі асадзілі горад Кольберг. Прускі кароль Фрыдрых II, каб выратаваць горад, паслаў у тыл рускіх войск корпус Платэна. Даведаўшыся аб гэтым, Суворaў з сотняй казакаў паскакаў насустрач Платэну. За ноч ён праскакаў 40 кіламетраў і на досвітку апынуўся ля ракі. На другім беразе быў горад Ландсберг.

— Горад наш!—сказаў Суворaў.—Наперад! Ура!

— Але-ж у горадзе прусакі,—сказаў нехта.

— Злітуйся, божа! — адказаў Суворaў.—Гэта-ж добра! Іх-жа мы і шукалі!

— Можа, трэба разведаць колькі іх?—запыталіся ў яго.

— Навошта! Мы прышлі іх біць, а не лічыць!—і з крыкам «ура» ён першы кінуўся ў ваду.

Раптоўны напад прымусіў прусакоў зложыць зброю, хоць іх армія была шмат большай, чым сотня Суворава.

Не прайшло і года, як імя Суворава стала вядомым усёй рускай арміі. Ён праслыў, як надзвычай смелы, кемлівы кавалерыст, які сваімі раптоўнымі налётамі наводзіў на прусакоў жах.

За мужнасць і выдатныя камандзірскія здольнасці царыца Екацярына прысвоіла Сувораву званне палкоўніка.

* * *

У 1768 годзе Турцыя абвясціла вайну Расіі. Суворaў са сваім войскам разграміў туркаў пры Казлуджы і прымусіў іх заключыць выгадны для рускіх мір: Расіі адыходзілі гарады Кінбург, Азоў, Керч, Хаджыбей. Турцыя прызнала незалежнасць Крыма, а Расія магла карыстацца Чорным морам. На месцы турэцкага горада Хаджыбея ўзнік рускі партовы горад Одэса.

Але туркі на гэтым не супакоіліся. Праз дзевятнаццаць год яны зноў абвясцілі вайну Расіі. Але і на гэты раз у бойцы пры Факшанах і Рымніку Суvoраў разбіў вялікую турэцкую армію. Гэтая перамога адразу паставіла яго імя на першае месца сярод палкаводцаў Еўропы. Яшчэ больш праславіўся Суvoраў пасля таго, як штурмам авалодаў турэцкай крэпасцю Ізмаіл. Крэпасць гэтая лічылася ў Еўропе непрыступнай.

65 год было Суvoраву, калі Екацерына II прысвоіла яму званне фельдмаршала. Але хутка пасля гэтага царыца памерла. Царом стаў яе сын Павел. Ён увёў у арміі прускую палачную дысцыпліну і муштроўку—якраз тое, чаго не цярпеў Суvoраў. Баючыся славы Суvoрава сярод войск, Павел выслаў яго ў глухі маёнтак Канчанскае пад нагляд мясцовай паліцыі.

У Канчанскім Суvoраў пісаў кнігі, займаўся сельскай гаспадаркай, гуляў з вясковымі дзецьмі ў гарадкі.

Але доўга ён тут не жыў. У гэты час малады французскі генерал Напалеон заваяваў паўночную Італію, якая належала Аўстрыі. Аўстрыя пачала прасіць у рускага цара дапамогі. Павел паслаў у Аўстрыю Суvoрава. Суvoраў з сваёй арміяй вельмі хутка разбіў французскія войскі генералаў Маро, Макданальда і Жубера. Гэтага толькі і чакалі аўстрыйцы. Як толькі небяспека для іх мінула, яны перасталі дапамагаць Суvoраву войскамі, транспартам, харчаваннем і пакінулі рускі корпус Рымскага-Корсакава ў Швейцарыі ў акружэнні французаў. Каб дапамагчы гэтаму корпусу, Суvoраў зрабіў славуты пераход праз горы Альпы. Без хлеба, транспарта і абмундзіравання, праз снежную пургу, кручы, густыя горныя туманы армія Суvoрава ішла на дапамогу сваім.

Незвычайная стойкасць і мужнасць Суvoрава і яго арміі здзівілі Еўропу. Імя славутага палкаводца стала вядомым усяму свету. Павел вымушан быў прысвоіць Суvoраву званне генералісімуса, бо за ўсё сваё баявое жыццё Суvoраў не меў ніводнага паражэння.

Хворы, з адкрытымі ранамі вяртаўся Суvoраў у Расію. Ён ведаў, што ў Пецербургу яму рыхтуецца пачэсная сустрэча—з гарматнай стралянінай і звонам у цэрквах. Гэта падтрымлівала слабеючыя сілы вялікага палкаводца.

Але цар адмяніў гэтую сустрэчу. Суvoрава ніхто не сустракаў, яму нават не дазволілі прыехаць у царскі палац.

18 мая 1800 года ў свайго пляменніка на Крукавым канале ў Пецербургу памёр вялікі Суvoраў.

За труною Суvoрава ішлі натоўпы рускага народа, якому было дорага імя праслаўленага палкаводца.

## КОЛЬКІ ЗОРАК НА НЕБЕ?

Суvoраў не любіў, калі яму на якое-небудзь пытанне адказвалі: «Не магу ведаць».

Неяк раз у зімовы марозны вечар Суvoраў выбег у адным мундзіры на ганак. Каля ганка ён убачыў вартавога. Вартавы, падняўшы галаву, глядзеў на зоркі.

— Служывы, колькі на небе зорак?—крыкнуў Суvoраў.

Вартавы ведаў характар Суvoрава і смела сказаў:

— Пяць мільёнаў шэсцьсот дваццаць тры тысячы восемсот трыццаць адна.

— Няпраўда,—не згадзіўся Суvoраў, пацiскаючыся ад холаду.

— Калі не верыце, ваша светласць, самі пералічыце,—спакойна адказаў вартавы.

Суvoраў засмяяўся, пастукаў вартавога па плячы і сказаў: «Барані бог, маладзец!» і пабег у дом.




# КРЫВЫ ШЛЯХ



(Працяг *)

Янка МАУР

Мал. А. Волкава

## НА ДАЧЫ

Я не ведаю, ці было яшчэ каму так добра спаць, як мне. Лепш сказаць, не спаць, а прачынацца. Звычайна будзілі мяне нашы ластаўкі. Спачатку я праз сон іх чуў, потым слухаў са сплюшчанымі вачыма, а потым ужо проста пазіраў на іх. Як маланка, мільгалі яны пад галавой, чапляліся за свае гнёзды—і тады ў гняздзе пачыналася такое ціліўканне, нібы там нешта смажылася.

Я вельмі любіў сачыць за імі, але бывалі выпадкі, калі яны надта недалікатна капалі на мяне... Раззлаваўшыся, я аднаго разу хацеў быў зусім растрыбушыць іхнія гнёзды, але маці стрымала мяне.

— Нельга крыўдзіць птушак, — сказала яна. — Калі што якое, мы можам адсунуць убок наш ложак, а разбураць гнёзды—няможна.

І мы адсоўвалі нашы ламаныя скрынкі, калодкі, дошкі, салому, з якіх быў змайстраваны наш ложак. Тады ўжо я супроць нашых птушак нічога не меў. Але гэта зусім не перашкаджала мне люта праследваць усіх іншых птушак, якія не былі нашымі кватарантамі.

Я ляжу на спіне і, апрача ластавак, бачу яшчэ шмат цікавейшых з'яў. Перш за ўсё—кросны з сонечных праменняў. Сонца пранікае да нас не толькі праз акенца, кудой лётаюць ластаўкі, але і праз сотні маленькіх шчылін і дзірачак. Гэтыя праменні пранізалі ўсё наша памяшканне залатымі ніткамі. Паміж гэтых залатых нітак шнырають усялякія мухі, восы, чмялі. А пад страхой, у саломе, вялікія і малыя павукі расставілі свае сеці і часам нават не паспяваюць заграбаць сваю дабычу. Пакуль павук загортвае адну муху, глядзіш—побач заблыталася другая і гудзе так, што пэўна знадворку чуваць. Тады павук пакідае тую муху і бяжыць да гэтай. А тым часам пачынае разблытвацца тая. Так і бегае павук з вылупленымі вачыма. А якая бывае пацеха, калі трапіць вялізны чмель ды разнясе ўшчэнт усю павучыную працу! Колькі тады ў павуковых вачах страху і злосці! Не ведаю, ці мог бы я цяпер разгледзець выраз павуковых вачэй, але тады я добра бачыў і нават ведаў, што ён думае. Вядома, вочы тады ў мяне былі лепшыя.

Хоць і з вялікай цікавасцю сачу я за гэтым жыццём, але яшчэ з большай цікавасцю сачу за дзіркай у... не ведаю, як сказаць,— у падлозе, ці столі. Для мяне гэта, вядома, падлога, але там, у хаце, яна лічыцца столлю. Недзе там унізе ёсць мама; яна ўвесь час памятае, што я тут ляжу, і пэўна рыхтуе для мяне нешта смачнае...

І вось паказваецца яе галава, потым плечы, потым рукі, а ў руках—міска. Што такое ў гэтай місцы? Ох, каб хутчэй убачыць!

Мама ўсміхаецца, і ад яе твару ідуць такія самыя залатыя праменні, як ад сонца. А прынесла яна мне бульбу, ды не абы якую, а падсмажаную. А ў бульбе была яшчэ скварка, сапраўдная свіная скварка. І адкуль толькі мама ўзяла яе?

Я ем, а маці глядзіць на мяне шчаслівымі вачыма, і ёй так смачна, так хораша...

— Чаму ты, мамка, не ясі?—пытаюся я.

— Ды я ўжо наелася,—адказвае яна.

Адпак, калі ад майго снедання засталося некалькі гарэлікаў, яна хуценька праглынула іх, забыўшыся, што ўжо наелася.

Адно толькі псавала маё дачнае жыццё—вячэрні час. Тады ў нашым падстрэшшы рабілася зусім непрыемна. Цёмныя куты, шчыліны, шолахі і ад ветру і ад чагосьці жывога—усё гэта нагаляла на мяне страх. А то яшчэ дождж пойдзе, або вецер халодны разгуляецца.

Я тады хаваўся пад коўдру, туліўся да мамы—і зноў быў шчаслівы. Ніколі ў нас не было двух ложкаў, коўдраў ці падушак, таму спаць разам давялося яшчэ многа гадоў. Але ніхто з нас супроць гэтага, здаецца, нічога не меў.

Так мы жылі на адной з нашых кватэр, на гары ў хаце цёткі Аўдулькі. Гэта, вядома, была летняя кватэра, або наша дача. Наогул павінен сказаць, што кватэры на маім жыцці мяняліся аж занадта часта. У горадзе за пяць гадоў я не

---

*) Пачатак гл. у № 3.



*І вось паказваецца яе галава, потым плечы, потым рукі, а ў руках — міска.*

мог прыпомніць ніводнай сталай кватэры. Па ўрыўках успамінаў я мог-бы налічыць іх пяць—шэсць, а колькі было да таго часу, пакуль маглі быць хоць якія успаміны? Пэўна, яшчэ столькі.

У вёсцы зноў пайшло тое самае: кожны сезон—новая кватэра. Добра яшчэ, што перасяляцца нам было зусім лёгка: коўдра, падушка, клунак і невялікая скрынка складалі ўсю нашу маёмасць. Мусіць, не ад дабра мы так часта перасяляліся, але на маіх вачах ніякіх сварак і калатні не было. А мне асабіста нават падабаліся такія частыя перасяленні.

Дом цёткі Аўдулькі быў новы, прасторны, з падлогай. Адзін сад ды печка з комінам чаго варты былі! Апрача таго, у іх была карова і нават конь. Адным словам, яны былі вельмі багатыя. Мусіць таму цётка Аўдулька і дзядзька Мікола былі такія вясёлыя і рухавыя. З дзяцей у іх быў толькі адзін Петрык, гадоў чатырох ці пяці. Бацька вельмі цешыўся з яго і, калі збіраліся госці, высоўваў хлопчыка наперад і камандаваў:

— А ну, Петрык, загні!

Петрык з сур'ёзным і спалоханым выглядам дзіцячым ламаным языком «загінаў» тое, што так часта чуў і ад бацькі і ад усіх іншых дзядзькоў.

«Выступленне» Петрыка заўсёды карысталася надзвычайным поспехам. Усе клаліся ад смеху ды паддавалі духу:

— Малайчына, Петрык! Так, так яго! Валяй, яшчэ, яшчэ!

Нават маці яго, крыху саромячыся, усміхалася і цешылася, што сынок яе такі здольны.

Чаму мы жылі не ў хаце, а на гары—я не ведаю. Адносіны да нас як самой цёткі, так і яе мужа, здаецца, былі добрыя. Прынамсі, на мой погляд... Але гэтая справа мяне і не цікавіла: мне ўсюды было добра.

Адзначу яшчэ, што ў гэтым раёне жылі Кітка і Грышка, мае два найлепшыя сябры. Праўда, яны трошкі задзіралі нос, бо ў іх былі і свае хаты (у Кіткі з комінам, а ў Грышкі—без коміна) і гародчыкі, і ў кожнага з іх быў бацька. Але затое я быў культурны, па святах хадзіў у чорных штанах, а ў іх чорных штаноў зусім не было. Так яно і заходзіла адно на другое.

## ЗІМОВАЯ КВАТЭРА

Кватэра зімовая была ў другой цёткі, Вулькі, той, што была замужам за Гаўрылам. Іхняя хата была самай апошняй; за ёй зараз-жа пачынаўся выган з глыбокімі чорнымі дзіркамі ад кароўіх і конскіх капытоў. Былі і большыя яміны, таксама чорныя,—іх зрабілі свінні. Але ўсе гэтыя яміны і дзіркі рабілі чужыя жывёлы: у цёткі Вулькі ніякай жывёлы не было.

Хата іхняя была без коміна і з земляной падлогай. На дварэ былі нейкія буданчыкі, сплеценыя з галля. У іх змяшчалася ўся сельскагаспадарчая маёмасць, а саха і перадок ад драбіны не змяшчаліся і валяліся проста на зямлі. Яны ўжываліся тады, калі дзядзьку Гаўрылу ўдавалася пазычыць каня ды яшчэ два колы.

Двор агарожы не меў, але гарод аддзяляўся ад выгана некалькімі жардзінамі. Аднак ён усёроўна мала чым адрозніваўся ад суседняга выгана.

Не ведаю, якім чынам гэта здарылася, але і цётка Вулька і дзядзька Гаўрыла былі вельмі падобнымі адзін да аднаго: абодва высокія, худыя, абодва чорныя і абодва пахмурыя ды маўклівыя.

У іх быў сын Міхалутка, старэйшы ад мяне на некалькі гадоў, і Цімка, мой равеснік. Міхалутка мне не падабаўся; ён быў такі самы доўгі, худы і лахматы, як бацька, бегаў заўсёды, задраўшы галаву ўгору і разявіўшы рот. Нават, калі яму раз нейкая птушка трапіла акурат у рот, ён усёроўна разяваў яго. Затое ён быў самым лютым ворагам усіх птушак наогул. А Цімка быў нішто сабе хлапец, звычайны.

Была яшчэ ў іх сястрыца, Рыпішка, маладшая з мяне гады на два. Колькі я памятаю, яна заўсёды хадзіла ў адной і той-жа зашмальцаванай кашулі ці сукенцы, была нейкая нязграбная, пузатая, а твар быў заўсёды ў балячках. Хоць яна хадзіла ў доўгай кашулі, але ні ў чым не адставала ад хлапцоў.

Змяшчаліся мы ўсе ў адной хаце — на печы, на лаве, на палацях.

Звычайна думаюць, што жыць у курнай хаце—няшчасце, што толькі адпетая бедната жыла ў курных хатах. А я, ды і Міхалутка, і Цімка, і Рыпішка, — зусім так не думалі. Наадварот, часамі мы адчувалі сябе нават лепей, як у хаце з комінам.

Не надта добра бывае толькі спачатку, калі печку запаляць. Хоць дзірка ў столі і адчынена, але дым чамусьці напаўняе тады ўсю хату, ад столі да зямлі. А як печы паляць вельмі рана, то мы абавязкова прачынаемся, пачынаем кашляць, закрываем галаву, хоць і пад коўдрай такі самы дым. Тады адчыняюць яшчэ дзверы, і мы сяк-так трымаемся, пакуль дым супакоіцца і збярэцца пад столлю.

Пасля таго ўжо ніякай бяды няма. Ляжыш сабе на спіне і глядзіш нібы ў неба. Белыя воблакі ходзяць, перамешваюцца, кожную хвіліну мяняюць свой выгляд, але прытрымліваюцца пэўнай граніцы і ніжэй яе не апускаюцца. У хаце паветра чыстае, толькі прыемны пах смолі адчуваецца — і нічога дрэннага няма...

Дзве мамы завіхаюцца каля печы, возяцца са сваімі чыгунамі, але як толькі хто з іх пасунецца па хаце шпарчэй, — зараз-жа следам за ёю пачынаецца віхар, дым перамешваецца, апускаецца ўніз. Мамы гэта ведаюць і стараюцца рухацца як мага цішэй.

Але вось Міхалутка схапіў світку ды як махне па воблаках. Божа, што тады робіцца ў хаце! А тут яшчэ і ўсе мы пачынаем махаць! Надыходзіць канец свету, неба мяшаецца з зямлёй, нельга бачыць і свайго носа, а нам весела-весела!..



*Мяне прыходзілася адмываць ужо на прыпечку.*

Толькі мамам нашым зусім не весела. Яны злуюць, хапаюць якую анучу ці памяло—ды па нас! Але паспрабуй ты знайсці нас у гэтым хаосе!

Ну, скажыце цяпер: хто з нашых рэбят не хацеў-бы таксама пагуляць? Вось табе і курная хата!

Хоць класціся спаць мы стараліся як мага раней, але ўзімку прыходзілася і пасядзець. Я вельмі любіў тады даглядаць лучыну, адламваць ад яе вуголле. І любіў я, калі на сцяне шапацяць прусы. Нават дым не мог іх выкурыць. З прусамі я даўно ўжо здружыўся, я палюбіў іх за тое, што яны мяне не любілі. Мы ведалі, што прусы некаторых людзей «любяць» і ядуць іх бязлітасна, а другіх «не любяць» і не чапаюць. У нас яны больш за ўсё любілі Рыпішку, таму яна і хадзіла ўся ў балячках. А нас з мамай яны не чапалі.

Да выдатных падзей у гэтай хаце трэба яшчэ аднесці наша мыццё ў «лазні». Часцей за ўсё гэта было ў той дзень, калі пяклі хлеб. Пасля таго, як хлеб вымалі, у печцы насцілалі салому. А затым маці, як баба-яга, садзіла ў печку мяне.

Як кожнае печыва, мяне зачынялі засланкай. У сярэдзіне ўжо стаяў чыгунок з вадой, ляжала мыла і мачалка. І да гэтага часу не магу забыць таго цудоўнага паху, які быў у печцы—і свежы хлеб і духмяная салома. Спачатку я павінен быў папрэць, а потым ужо мыцца. Прэць было яшчэ сяк-так, а вось мыцца—дзякуй за ласку! Абавязкова дакранешся да гарачай печкі то локцем, то каленам, то плячом. Таму мыццё маё, мусіць, ніякага знаку не мела, і мяне прыходзілася адмываць ужо на прыпечку.

Усё гэта хоць і дзіўна на наш погляд, але што можна сказаць, калі пасля мяне сама маці лезла ў печку, таксама зачынялася і мылася там?

Адно можна сказаць: або печка была вельмі вялікая, або мамка мая была надта малая.

Вельмі мала ў маёй памяці зімовых карцін на двары, на вуліцы, у полі або на лёдзе. Самы значны след у маёй памяці пакінуў след ад маленечкіх санachак, якія я адзін вазіў па некранутым снезе. Гэты след напаўняў усю істоту такім шчасцем, якога я ніколі ў жыцці забыць не мог. Не саначкі, і не тое, што я іх вазіў, урэзаліся ў маё сэрца, а іменна самы след, які мякка клаўся за саначкамі. Вось і цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, я зноў нібы пачынаю адчуваць гэтае шчасце...

Хай падумаюць аб гэтым бацькі, ці старэйшыя браты і сёстры, калі малы папросіць іх зрабіць ім такія саначкі.

А зімовых карцін не засталося ў маёй памяці таму, што я ўзімку не выходзіў з хаты. А не выходзіў я з хаты таму, што не было чаго адзець...

(Працяг у наступным нумары).






*М. ДЗІДЗІНА*

У нашае Кветкі
Бычок нарадзіўся,
Глянуў навокал
І сам здзівіўся.

І свет вялікі,
І красак многа;
Пад бор высокі
Ідзе дарога.

Сіняй істужкай
Рэчка віецца,
Згары—здаецца—
Сонца смяецца.

Бычок прыгожы,—
Кароўка рада:
Прыбудзе ў полі
Нашага стада.

Устаўшы рана,
За мамай следам
Прышла дзяўчынка
Бычка праведаць.

Гладзіць малога
Малою рукою.
—Трэба расці нам,
Быську, з табою!

## Буду трактарыстам

*Стась ТАФІЛІН*

Я цяпер яшчэ малы,
А скажу ўсім чыста:
Скончу школу, падрасту,
Буду трактарыстам.

Навучуся кіраваць
«Сталінцам» магутным.
Будзе ў полі на зары
Яго голас чутны.

Як засею я палі
Жытам і пшаніцай,
Захвалююцца яны—
Люба падзівіцца.

Як багаты сабярэм
Ураджай калгасны,
То заможна зажывем,
Весела і шчасна.

Буду ў школе ўсё вучыць
Толькі на выдатна,
А ў калгасе стану я
Трактарыстам знатным.





# КАСАЛАПКА

Г. СКРАБІЦКІ

*Мал. Г. Нікольскага*

Прыгрэла вясновае сонейка, растапіла снег спярша ў полі, а потым і да лесу дабралася. Усюды забулькалі, залапаталі ручаі і, пераклікаючыся з імі на розныя галасы, заспявалі птушкі.

Уверсе над лесам сінее, блішчыць яркае пагодлівае неба, а на лясных палянках таксама блішчаць, сінеюць, як неба, вялізныя вясновыя лужыны. На галінках дрэў буйнымі празрыстымі ягадамі павіслі першыя дажджавыя кроплі, і ў кожнай кроплі відаць адбітак сонца. Мільёны малюсенькіх сонцаў залатым дажджом рассыпаліся па лесе, бягуць на зямлю і гараць, як светлячкі, у шэрых леташніх лісцях.

Лес нібы вымыўся растаючым снегам і зіхаціць, іскрыцца ўвесь у пырсках вады і сонца. А пацягне ветрык, і па лесе так і запахне свежаю травою, бярозаю і падснежнікамі.

Павесялеў хмуры лясны гушчар. Толькі велізарная гурба каля вывернутай хвоі яшчэ не здаецца, не хоча раставаць, але і ёй нядоўга асталося, і да яе дабіраецца скрозь гушчар галін гарачае вясновае сонца. Усё больш апускаецца ўніз яе жоўты, зляжалы снег.

Раптам неяк удзень гурба ажыла. Яна заварушылася, прыўзнялася і нарэшце рассыпалася на дробныя снегавыя кавалкі.

З-пад снегу паказалася вялізная бурая галава. Ломячы галлё, крэхчучы і фыркаючы, з-пад хвоі вылезла мядзведзіца, а ўслед за ёю з бярлогі выпаўз маленькі нязграбны мядзведзік—сапраўдны касалапка.

На яго так і пырснула струменнямі святла, гукаў і лясных вясновых пахаў. Касалапка адразу нават спужаўся і падаўся назад да бярлогі—бо ён-жа нарадзіўся зімою пад снегам і цяпер першы раз толькі вылез на белы свет. Але тут-жа ён перадумаў, агледзеўся навокал і, як козлік, заскакаў, забегаў па палянцы.

А мядзведзіца ўжо ўзялася за работу: ходзіць тут-жа па праталінцы, выкопвае салодкія карэньчыкі, ловіць жукоў, жаб.

Усю зіму яна нічога не ела. Цяпер ёй трэба хутчэй папраўляцца.

З кожным днём усё знікалі ў лесе рэшткі снегу. З-пад апалага лісця вылазілі тоненькія зялёныя травінкі.

Ярчэй свяціла сонца, яшчэ весялей спявалі птушкі.

Касалапка з маткаю цэлыя дні хадзіў па лесе. Усё яму было цікава, усё патрэбна паспрабаваць. Маці жукоў есць—і Касалапка спрабуе. Нічога, смачны, толькі не заўсёды.





Схапіў ён аднаго разу жужаля, а той як учэпіцца яму ў язык—свету ад болі не ўбачыў Мішка, затрос галавою, зароў і—да маткі ратавацца.

Яшчэ бяда Касалапку—ніхто з ім гуляць не хоча. Жабы якія вясёлыя—скачуць, падскокваюць, а толькі мядзведзік кране іх лапай, як яны зараз-жа ножкі выцягнуць і болей не хочуць скакаць, нават і зусім не варушыцца.

А розныя лясныя звяркі і зусім—толькі ўбачаць Касалапку з маткай, адразу чамусьці ўрассыпную, нібы іх вецер садзьмуў.

Аднаго толькі разу знайшоў Мішка добрага звярка. Звярок яшчэ меншы за Касалапку—тоўсценькі, шэранькі. Глядзіць на мядзведзіка чорнымі вачыма і пыхкае: мусіць таксама пазнаёміцца хоча, ды баіцца.

Кінуўся да яго Касалапка, а звярок яшчэ мацней запыхкаў і згарнуўся ў клубок. Хацеў яго Мішка па траве пакачаць, падкінуў лапай ды як завішчыць—уся лапа ў крыві.

Падбегла мядзведзіца, абнюхала вожыка і прэч пайшла, а за ёю і Касалапка пацягнуўся.

# ГУЛЬНІ

## ЧЫГУНКА

Гуляць можна ўсім класам на ціхай вуліцы, або ў двары школы. Выбіраецца 5—6 кандуктараў. Усе астатнія становяцца ў рад адзін за другім, трымаючы папярэдняга таварыша за локці. Той, хто стаіць першым—паравоз; хто стаіць за «паравозам»—вагоны. Кандуктары стаяць збоку.

Кандуктары даюць сігнал адпраўлення, паравоз гудзе і разам з вагонамі пачынае набіраць хуткасць. Паравоз рухаецца ў любым кірунку, спыняючыся на загадзя абазначаных станцыях. За паравозам бягуць вагоны, робячы павароты на тым самым месцы, на якім іх робіць паравоз. Кандуктары рухаюцца разам з вагонамі.

Зрабіўшы некалькі кругоў, паравоз раптоўна кажа: «Прыехалі». Усе вагоны, у тым ліку і паравоз, разбягаюцца ў розныя бакі. Кандуктары павінны злавіць усе вагоны і сфарміраваць састаў поезда. Калі гэта зроблена, гульня пачынаецца спачатку. Кандуктарамі цяпер будуць тыя, хто не быў злоўлены, або злоўлены апошнім.

Вырывацца ад кандуктараў не дазваляецца. Злоўлены і пастаўлены ў шарэнгу не мае права ўцякаць з яе.

## ХТО ЛЁТАЕ?

Усе становяцца ў круг. У сярэдзіне круга адзін з гуляючых пералічвае птушак, жывёл, рэчы, дадаючы да кожнай назвы слова «лётае». Напрыклад, ён кажа: «самалёт лётае», «птушка лётае», «верабей лётае» і г. д. Калі ён гаворыць правільна, усе прысядаюць, калі-ж скажа, напрыклад, «стол лётае», а хто-небудзь, памыліўшыся, прысядзе,—той лічыцца прайграўшым. Тады ён сам ідзе ў круг і пачынае выклікаць.

## РУХ КАЛЁСНАГА КОЛА

Вы, напэўна, не адзін раз паглядалі за рухам калёснага ці веласіпеднага кола. І заўважылі, што пакуль спіцы знаходзяцца ўнізе, яны відаць даволі выразна; у верхняй-жа частцы мігаюць так хутка, што іх цяжка заўважыць—яны зліваюцца. Гэта лепш заўважыць, калі да шыны збоку прымацаваць белую палоску. Выходзіць, што верхняя частка кола круціцца хутчэй, чым ніжняя?

У чым-жа адгадка гэтай дзіўнай з'явы? Ды проста ў тым, што гэта сапраўды так. Факт даволі кур'ёзны, а, між тым, хто добра ведае механіку, можа лёгка яго растлумачыць.

Кожны пункт кола робіць адразу два рухі: круціцца вакол сваёй асі і прасоўваецца наперад разам з воссю. Адбываецца складанне двух рухаў,—але вынік розных частак неаднолькавы. Уверсе вярчальны рух кола дадаецца да паступальнага, бо яны накіраваны ў адзін бок. Унізе вярчальны рух накіраваны назад і, значыцца, адымаецца ад паступальнага. Вось чаму верхнія часткі кола перамяшчаюцца адносна нас хутчэй, чым ніжнія.

А вось яшчэ адна цікавая задача. Поезд імчыцца з Мінска ў Маскву. Ці ёсць у вагонах такія пункты, якія адносна рэек рухаюцца назад—з Масквы ў Мінск? Той, хто скажа, што няма, груба памыляецца. А калі ёсць, дык дзе-ж яны знаходзяцца?

Вы можа заўважылі, што кола ў вагоне мае выступ. І вось, аказваецца, што самая ніжняя яго частка пры руху поезда перамяшчаецца зусім не наперад, а назад. Каб пераканацца ў гэтым, зрабіце такі дослед. Да гузіка прымацуйце запалку, канец якой апушчаны ўніз. Цяпер гузік каціце па краю лінейкі або стала. Вы лёгка заўважыце, што канец запалкі адносна лінейкі рухаецца не ўперад па лінейцы, а назад.

## САМЫ ПРОСТЫ МІКРАСКОП



Напэўна, кожны з вас бачыў мікраскоп і ведае, што ён пры дапамозе складаных луп можа павялічваць у некалькі сот і тысяч разоў.

Аднак, самы просты мікраскоп за некалькі секунд вы можаце зрабіць самі. Для гэтага вазьміце картонку і пракаліце іголкай маленькую дзірку. Зірніце праз яе на невялікі прадмет, і вы ўбачыце яго павялічаным у некалькі дзесяткаў разоў. Звычайны волас будзе мець выгляд тоўстага дрота, а іголка будзе такой вялікай, як цвік.



# В. І. ЛЕНІН — ШАХМАТЫСТ

Гісторыя шахмат мае няммала прыкладаў, калі выдатныя дзеячы, слаўтыя вучоныя свой вольны час праводзілі за шахматнай дошкай. Вядома, што К. Маркс, Ф. Энгельс і К. Лібкнехт любілі шахматы і выдрэнна ў іх згралі. Вельмі любіў шахматную ігру і Уладзімір Ільіч Ленін.

Іграць Ленін пачаў з 8—9 год. Навучыўся ён іграць ад бацькі—Ільі Нікалаевіча Ульянава, які ў Ніжнім Ноўгарадзе сам зрабіў шахматы і навучыў іграць усіх сваіх сыноў. «Для кожнага з іх была радасць, калі бацька клікаў іх да сябе ў кабінет і расстаўляў шахматы,—успамінае сястра Леніна А. І. Ульянава.



*В. І. Ленін і А. М. Горкі за шахматнай дошкай.*

Уладзімір Ільіч іграў лепш за ўсіх і, калі яму было 15 год, ён ужо абыгрываў свайго бацьку. Гэта тлумачыцца тым, што, як і да ўсякай справы, да шахматнай ігры Ленін адносіўся сур'ёзна і іграў заўсёды ўдумліва. Ён ніколі не любіў іграць з тым, хто дапушчае «грубыя» памылкі, не абдумвае свой кожны ход. Н. К. Крупская ўспамінае, як адзін час Ленін, захапляючыся шахматамі, іграў па перапісцы з старым бальшэвіком, палітэмігрантам Лепешынскім: «Расставіць шахматы Уладзімір Ільіч і абдумвае ход. Адзін час так захапіўся, што ўскрыкваў нават у сне: «Калі ён канём сюды, то я турой туды».

Зіму 1889—90 г. сям'я Ульянавых жыла ў Самары. Тут быў арганізаваны шахматны турнір, у якім удзельнічала 8—10 чалавек. Не гледзячы на тое, што ў турніры прымаў удзел вядомы тады шахматыст Хардзін, Ленін заняў першае месца.

Пазней, калі Уладзімір Ільіч аддаваў увесь свой час на кіраўніцтва рэвалюцыйным рухам, ён амаль пакінуў іграць у шахматы і іграў толькі будучы ў турме або ссылцы. А калі там не было шахмат, ён сам ляпіў фігуры з хлеба, або прасіў, каб яму прыслалі. Так, у 1898 г. з сяла Шушэнскага (Сібір) ён пісаў сваёй маці: «Прышлі мне адну з нашых партый шахмат».

Ленін таксама любіў развязваць шахматныя задачы і эцюды. Аб гэтым ведаў яго брат Д. І. Ульянаў і часта пасылаў задачкі ў лісце. Наконт адной такой задачкі Ленін пісаў брату: «Задачу тваю я развязаў лёгка. А вось в «Речи» (газеце—С. Т.) убачыў сёння эцюд, які развязаў не адразу і які мне вельмі спадабаўся... Прыгожая штучка!»

У сваіх успамінах аб Леніне Д. І. Ульянаў піша: «У Вл. Ільіча было выдатнае правіла, якога ён сам прытрымліваўся і строга патрабаваў ад свайго партнёра: хадоў назад ні ў якім разе не браць—узяўся за фігуру, ёй і хадзі...»

**С. Турчыновіч**

### № 3. ЭЦЮД «ПРЫГОЖАЯ ШТУЧКА».

Становішча фігур:

Белыя: Крg3, Кg1, Се7, пп h5, d3.

Чорныя: Кра3, пп h7, d5, a2.

Белыя пачынаюць і выйграюць.

Паспрабуйце развязаць гэты эцюд, які вельмі спадабаўся Леніну. (Эцюд—шахматная канцоўка, якая мае адзіны правільны выйгрыш).

# КОК-САГЫЗ

Уявіце сабе, што-б адбылося, калі-б раптам людзі засталіся без гумы... Самалёты не змаглі-б падняцца з аэрадромаў, нельга было-б выкарыстаць электрычны ток, спыніліся-б фабрыкі, заводы, трамваі, аўтамашыны; людзі не змаглі-б выконваць шматлікія работы ў лабараторыях, на заводах і ў клініках.

Як бачыце, гума вельмі патрэбна чалавеку.

У нашай краіне гуму здабываюць з расліны, якая называецца кок-сагызам. Кок-сагыз упершыню знайшла экспедыцыя, кіраўніком якой быў батанік Родзін. Гэта было ў 1931 годзе. Шмат раёнаў Казахстана аб'ездзілі тады ўдзельнікі экспедыцыі, даследвалі вялікую колькасць раслін і толькі ў гарах Цянь-Шаня знайшлі расліну, якая ўсіх зацікавіла. Па знадворнаму выгляду яна была падобна на адуванчык, расла на вышыні 1800—2100 метраў над узроўнем мора і ў сваіх карэннях мела звычайную прыродную гуму. Расліну назвалі кок-сагызам, што па-казахску азначае—«зялёная жвачка».

Кок-сагыз—шматгадовая расліна з сямейства складанакветкавых. Размнажаецца яна як насеннем, так і чаранкамі. Карэнні кок-сагыза маюць выгляд трубачкі, запоўненай сокам. На паветры сок хутка цвярдзее і ператвараецца ў гуму. Сцябла кок-сагыз не мае, а лісці—25—45 штук—растуць так званай разеткай, якая ляжыць на глебе. Лісці кок-сагыза поўнасцю вырастаюць праз месяцы два—два з паловай пасля пасеву. Цвіце расліна жоўтымі невялікімі кветкамі, якія сабраны ў суквеццe. Праз два—тры тыдні з'яўляецца насенне. Спее яно неадначасова і таму збіраецца ў некалькі прыёмаў. Увосень карэнні кок-сагыза выкапваюць, ачышчаюць ад глебы, прасушваюць і здаюць на нарыхтоўчыя пункты.

З аднаго гектара нашы калгасы атрымоўваюць да 45—50 цэнтнераў карэнняў кок-сагыза. Асабліва добра родзіць коксагыз на тарфяных глебах.

З нарыхтоўчых пунктаў сухое карэнне кок-сагыза паступае на заводы. З 100 цэнтнераў карэнняў здабываецца каля 1,5 цэнтнераў гумы.

**А. Маркавец,**
кандыдат біялагічных навук.

## ЗМЕСТ



На вокладцы: малюнак А. Волкава „Май“.

На ўкладках: А. В. Сувораў. Песня піонераў Совецкага Саюза.


Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55. Дом Друку.

Адказны рэдактар **А. Якімовіч.**

АТ 02428. Здадзена ў набор 26/III—46 г. Падпісана да друку 15/V-46 г. Друк. арк. 2.

Друкарня імені Сталіна, Мінск, Пушкіна, 55. Тыраж 10000 экз. Зак. 109.

# Вучыцеся плаваць

Вучыцца плаваць трэба на неглыбокім месцы і абавязкова пад наглядам старэйшых, або таварышоў, якія ўмеюць добра плаваць. Спачатку навучыцеся правільна рэгуліраваць сваё дыханне. Удыхаць паветра трэба праз рот, прычым, хутка, а



*Плаванне стылем «брас».*



*Плаванне стылем «кроль».*

выдыхаць—марудна праз нос і рот. Удых і выдых павінны быць поўнымі. Трэніраваць дыханне можна на беразе. Пры выдыху трэба апускацца з галавой пад ваду.

Навучыўшыся рэгуліраваць сваё дыханне, пачынайце плаваць. Спачатку паспрабуйце плаваць, трымаючыся рукамі за тоўсты кавалак дошкі. Можна таксама змайстраваць сабе паплаўкі з сітняку. Робяцца яны вельмі проста: два кулі сітняку звязваюць вяровачкай—і паплаўкі гатовы. Цяпер, апусціўшы паплаўкі на ваду, кладзіцеся грудзямі на вяровачку так, каб паплаўкі былі ў вас з абодвух бакоў, крыху ніжэй пах.

Ёсць два асноўных стылі ў плаванні — «кроль» і «брас».

Пры плаванні стылем «кроль» цела павінна ляжаць прама на паверхні вады, ледзь выгнутае ў паясніцы; твар да валасоў апушчаны ў ваду, ногі—на ўзроўні галавы. Ногі працуюць па чарзе, як маятнік у гадзінніку, толькі знізу ўверх. Выкінуўшы наперад адну руку, вы падграбаеце пад сябе ваду і ў гэты-ж час заносіце другую руку. Выдыхаць паветра трэба ў ваду, а ўдыхаць—павярнуўшы галаву ўбок. Гэты стыль нагадвае плаванне «сажонкамі».

Пры плаванні стылем «брас» галаву да валасоў трэба трымаць у вадзе, рукамі і нагамі працаваць пад вадой. Вікінуўшы абедзве рукі наперад, разграбайце ваду ў бакі і ў гэты-ж час, сагнуўшы ногі ў каленях, як-бы ўпіраючыся ў ваду, рабіце штуршок наперад. Паветра ўдыхайце, крыху прыўзняўшы галаву над вадою. Плаванне гэтым стылем нагадвае плаванне жабы, таму часам кажуць «плаваць жабай».

Гэтымі двума стылямі можна плаваць і лежачы на спіне.

**Н. ГУР'ЕЎ,**
трэнер па плаванню.

## КОЛЬКІ БРАТОЎ І СЯСЦЁР?

*(Арыфметычны фокус)*

Вы можаце лёгка адгадаць, колькі ў вашага таварыша братоў і колькі сясцёр. Для гэтага вы прапануйце яму рабіць наступныя вылічэнні.

Дадаць да ліку братоў 3 і атрыманае памножыць на 5, потым прыкласці 20 і памножыць суму на 2; да выніку дадаць лік сясцёр і яшчэ 5.

Пасля гэтага таварыш паведамляе вам лік, які ў яго атрымаўся. Вы адымаеце ад яго 75, і першая лічба будзе азначаць колькасць братоў, другая колькасць сясцёр.

